# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

№ 13 (944) ГОД XIX БЕЛАСТОК 31 САКАВІКА 1974 г. ЦАНА 60 гр.


З ПЕСНЯЙ НАСУСТРАЧ XXX ГОДДЗЮ ПНР

## ЗОФІЯ ЦАЦЭРКА

**Зофія Цацэрка з Бaброўнікаў Беластоцкага павету на сёлетнім цэнтральным аглядзе БГКТ заняла I месца па выкананню народных песень (ўзнагарода «Нівы»).**

**Фота А. Карпюка**





Нашы ІНТЭРВ'Ю

## СЛОВА МАЕ НАЧАЛЬНІК ГМІНЫ

Год і тры месяцы мінула з таго часу, калі распачалі працу гміны і іх начальнікі. За гэты час новая адміністрацыя не толькі пазнаёмілася з усімі справамі паасобных вёсак, усяго свайго гміннага асяроддзя, але і хутка прыступіла да вырашэння многіх праблем свайго мікраранёна. Нядаўна кароткае інтэрв'ю даў нам Віталіс Пякарскі — начальнік гміны ў Нарве.

— У нас, — гаварыў ён, — найбольш маем дачыненне з сельскагаспадарчымі справамі. А вось некаторыя з іх. У многіх вёсках ёсць шмат старых гаспадароў, пасля якіх няма каму апрацоўваць гаспадарку. Дарослыя іх дзеці паехалі ў гарады і там маюць сталую працу, ды не думаюць вяртацца на вёску. Ёсць таксама шмат эканамічна занядбаных гаспадарак. І таму трэба зрабіць дакладную разведку ў кожнай вёсцы, каб ведаць, якія напрамкі працы неабходныя ў гэтай галіне. Мы ўжо прынялі ў дзяржаўны фонд 15 гаспадарак. Некаторыя з іх гаспадароў будуць ужо атрымоўваць рэнту за зямлю. Ёсць у нас 145 гаспадароў, якія дрэнна гаспадараць і гаспадаркі якіх трэба будзе таксама пераняць у дзяржаўны фонд. Ёсць таксама шмат такіх гаспадарак, якія пры нашай, гміннай дапамозе, можна, так сказаць, адрамантаваць, і тады будуць мець яны шанцы дараўняцца да добрых гаспадарак.

— Плануем таксама, — прадаўжаў Віталіс Пякарскі, — ужо цяпер перадаць 254 га зямлі сельскагаспадарчым гурткам і спулдзельням прадукцыйным. На слабых, малаўраджайных землях пасадзім лес. Зразумела, што гэтых спраў адразу, за адзін год немагчыма будзе зрабіць.

У гміне Нарва вялікая ўвага прысвячаецца росту сельскагаспадарчай вытворчасці, і ў тым ліку развіццю жывёлагадоўлі. Да 1978 года ў гміне Нарва запланавана павялічыць колькасць

(Працяг на стар. 5)

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "НІВЕ"



## НЕ ТОЛЬКІ СЕЯЦЬ, АЛЕ І ЖАЦЬ ТРЭБА!

І так, павятовыя і цэнтральны агляд „Песня-74“ закончыліся. Іх арганізацыя прайшла даволі спраўна, месцы ўдзельнікам прызнаны, узнагароды раздадзены. Здавалася б, што з рук, то і з галавы. З рук — напэўна так, бо мерапрыемства было вельмі ўданае, але з галавы — не! Яно паставіла перад намі новыя задачы, выклікала многа рэфлексій і дало спажыву да разважанняў.

Не будзе пераўвелічэннем, калі скажам, што ўжо сама задума праводзіць кожны год рэгулярна агляды песеннай самадзейнасці была вельмі трапнай і знайшла надзвычай прыхільны грунт. Гэта пацвярджаюць лікі ўдзельнікаў. Калі ў першым аглядзе ў 1970 г. прынялі ўдзел усяго 32 асобы, то ў наступным 1971 г. было іх ужо 70 чалавек, у 1972 г. — 125 спевакоў, у 1973 г. — звыш 150 удзельнікаў, а ў гэтым годзе — больш чым 200 асоб! І гэта ўсіх нас цешыць. Прачнуліся затоеныя ў самых глухіх куточках Беласточчыны народныя таленты, людзі пераканаліся, што беларуская песня зусім не горшая ад песень іншых народаў, заўважылі ў ёй і ацанілі непаўторную прыгажосць. На сцэну выйшлі не толькі творы беларускіх кампазітараў ці беларускія народныя песні, апрацаваныя музыказнаўцамі, але і тыя, што спакон веку спяваліся на хрысцінах, вяселлях, на вечарынках або проста калі на змярканні выйдзе моладзь на вясковую вуліцу і над наваколлем стане шыбаваць залівістая народная мелодыя. І як добра, што яна знайшлася не толькі ў рэпертуары маладых людзей, але з ёю на сцэну выйшлі пажылыя ўжо спявачкі з Новай Волі Беластоцкага павету, Тапчыкалаў — Бельскага, Гаркавіч — Сакольскага, Арэшкава — Гайнаўскага і многіх іншых мясцовасцей Беласточчыны. Сотні слухачоў мелі магчымасць пачуць яе ў выкананні сапраўдных стваральнікаў і захавальнікаў народнай ме-

Працяг на стар. 4

## БГКТ ХРОНІКА

■ Навучэнцы 4 класаў беларускіх ліцэяў у Бельску і Гайнаўцы 16 сакавіка сустрэліся з выкладчыкамі беларускай мовы і літаратуры Варшаўскага універсітэта. Др Эльжбета Смулкова ў Бельску і др Аляксандр Баршчэўскі ў Гайнаўцы расказвалі будучым выпускнікам ліцэяў аб вучобе студэнтаў на беларускай філалогіі і заахвочвалі іх рыхтавацца да ўступных экзаменаў у гэтай навучальнай установе. Выкладчыкі універсітэта адказвалі таксама на шматлікія пытанні прысутных.

■ 17 сакавіка бельскі аддзел супольна з аддзелам культуры павятовага ўпраўлення правялі першы ў БГКТ агляд тэатральных калектываў. Прыступілі да яго чатыры драматычныя гурткі. Самадзейнікі з Пасынак падрыхтавалі драму Кандрата Крапівы „Валодзін гальштук“. Працавалі яны пад кіраўніцтвам Валянціны Грыгарук. Ігралі: Валянціна Ігнацюк, Марыя Дзем'янюк, Васіль Філіманюк, Янка Грыгарук і Вера Матысюк.

Моладзь з Парцава выступіла на аглядзе з п'есай „Мікітаў лапаць“. Рэжысёрам гэтай пастаноўкі была Антаніна Бабулевіч, а ігралі: Валянціна Серадзінская, Антаніна Артэмюк, Мікалай Себясевіч, Валянціна Брэчко, Люцына Себясевіч, Яўгенія Більчэўская, Мікалай Сушч, Янка Мойсік і Юрка Ігнатовіч.

Найвышэйшы мастацкі ўзровень меў тэатральны калектыў з Катлоў, які падрыхтаваў п'есу М. Крапіўніцкага „Боты“. Самадзейныя артысты Янка Малішэўскі, Яўгеній Кавэрда, Аліна Асташэвіч і Янка Гушча — добра справіліся са сваімі ролямі. Нават журы прызнала за найлепшага артыста-самадзейніка Янку Малішэўскага. Неабходна падкрэсліць вялікую заслугу настаўніцы Лідзіі Карыцкай, а таксама вучаніцы беларускага ліцэя ў Бельску Таісы Наумчук, якія дапамагалі ў падрыхтоўцы гэтай п'есы.

Другое месца занялі самадзейнікі з Парцава, трэцяе — з Пасынак. Спецыяльную ўзнагароду атрымаў тэатральны калектыў, які складаўся з удзельнікаў двух вёсак — Тапчыкалаў і Грэдалёў. Пад кіраўніцтвам бібліятэкара ў Грэдалях Ольгі Пракапюк, калектыў гэты сам напісаў тэксты да пастаноўкі вясковай вечарынкі. Прыпомнілі, як такія вечарынкі адбываліся ў мінулым на вёсках Бельшчыны. Атрымалася цікавая фальклорная інсцэнізацыя. Усе ўдзельнікі гэтага калектыву добра папрацавалі. Падаем іх прозвішчы: Анна Баран, Марыя Крук, Ніна Сікора, Вера Брэнько, Надзея Мазурук, Аляксандра Брэнько, Люда Іванюк, Ніна Баркоўская, Галіна Бурыла, Анатоль Брэнько, Аляксей Андрэюк, Люда Андрэюк. Прадстаўніца гэтага тэатральнага калектыву, Анна Баран, на думку журы, выканала найлепш сярод успамянутых чатырох калектываў жаночую ролю. У пастаноўцы „Вечарынкі“ іграла яна ролю маці. На фінальным аглядзе тэатральных калектываў бельскі аддзел БГКТ прадстаўляць будуць самадзейнікі з Катлоў і Тапчыкалаў-Грэдалёў. (мх)



*Беласток, вуліца Дзяржынскага.* *Фота Я. Цялушэцкага.*

# Падзеі · Здарэнні · Факты · Каментарыі · Весткі



## СВЕТ



## БССР

## ПОЛЬШЧА



## ВАЯВОДСТВА

### КАНФЕРЭНЦЫЯ

У Сафіі 22 сакавіка г.г. закончылася трохднёвая канферэнцыя Балгарскай камуністычнай партыі. Асноўнай яе тэмай былі праблемы, якія прадставіў у сваім дакладзе І сакратар ЦК БКП Тодар Жыўкаў — „За высокую грамадскую прадукцыйнасць працы“.

Задачы, пастаўленыя канферэнцыяй, адкрываюць перад Балгарыяй новы этап хутчэйшага, інтэнсіўнага развіцця. Павелічэнне грамадскай прадукцыйнасці працы абазначае тэхнічную і тэхналагічную перабудову фабрык і заводаў, канцэнтрацыю і спецыялізацыю прадукцыі, а таксама лепшае выкарыстанне людскіх і матэрыяльных рэсурсаў.

### ЭМБАРГА

Арабскія міністры па справах нафты прынялі пастанову ў Вене аб знясенні эмбарга на пастаўку нафты ў ЗША. Гэтая пастанова не была прынята аднадумна. За знясеннем эмбарга без якіх-колечы абмежаванняў выказаліся: Саўдыйская Аравія, Баграйн, Егіпет, Кувейт, Катар і Злучаныя Арабскія Эміраты. Алжыр згадзіўся на знясенне эмбарга да 1 чэрвеня г.г., Лівія і Сірыя заявілі, што будуць стаяць надалей за забарону экспарту нафты ў ЗША. Ірак увогуле не прымаў удзелу ў венскай канферэнцыі.

### КАНАЛ ВОЛГА-УРАЛ

Апрацаваны праект, а хутка распачнецца будова вялікага наваднявочага канала, які накіруе воды Волгі ў раку Урал. Ужо вызначаны шлях новай воднай дарогі. Канал Волга-Урал будзе найбольшай у Еўропе гідратэхнічнай сістэмай. Дазволіць яна на арашэнне 2,5 мільёна гектараў ворнай зямлі і навадненне каля 8,5 мільёна гектараў лугоў.

### ЗЛАЧЫНЦЫ

Згодна з данымі генеральнага пракурора Венгерскай Народнай Рэспублікі, у 1973 годзе ў Венгрыі было пастаўлена пад суд 125.388 злачынцаў. Колькасць злачынцаў зменшылася ў параўнанні з мінулым годам. На 10 тыс. насельніцтва прыпадала ў сярэднім 120 выкрытых злачынстваў; для параўнання: у Фінляндыі — 514, у Аўстрыі — 378, у ФРГ — 359, у Італіі — 108, у ГДР — 73.

### ЗАБАСТОЎКА

Перамогай закончылася буйнейшая за апошнія 17 гадоў забастоўка працаўнікоў Заходняга Берліна — рабочых і служачых камунальных установ, транспарту і пошты. Выступіўшы ў абарону сваіх правоў, яны запатрабавалі павышэння заработнай платы, паляпшэння ўмоў працы. Згуртаваная армія бастуючых, якая вырасла да 40 тысяч чалавек, дабілася ад прадпрыемцаў і гарадскіх улад павелічэння зарплаты на 11 працэнтаў.

### АДСТАЎКА

Белы дом аб'явіў аб маючай адбыцца адстаўцы Дж. Шульца з пасады міністра фінансаў ЗША ў сувязі з яго жаданнем „вярнуцца да прыватнага жыцця“. Адстаўка ўступіць у сілу ў пачатку мая. (ак)

### ДНІ ЛІТОЎСКАЙ КУЛЬТУРЫ

18 сакавіка распачаліся ў БССР Дні культуры Савецкай Літвы ў Беларусі. З гэтай нагоды прыбыло ў Мінск звыш 700 пасланцаў Літвы: пісьменнікаў, кампазітараў, мастакоў, кінематаграфістаў, спевакоў, музыкантаў, удзельнікаў мастацкай самадзейнасці. Яны прыбылі на вялікае свята мастацтва і дружбы, каб паказаць сваім суседзям высокае майстэрства нацыянальнай літоўскай савецкай культуры.

Гасцей з ЛССР прывіталі ў Мінску прадстаўнікі партыйных, дзяржаўных і грамадскіх устаноў БССР, сярод якіх былі: намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. Сняжкова, загадчык аддзела культуры ЦК КПБ С. Марцалёў, Старшыня Вярхоўнага Савета БССР, народны пісьменнік І. Шамякін і старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, народны паэт Беларусі Максім Танк.

Між БССР і Савецкай Літвой ужо здаўна склаліся самыя цесныя і дзелавыя суадносіны. Шмат год працоўныя абедзвюх рэспублік спаборнічаюць за лепшае выкананне гаспадарчых планаў, абменьваюцца мастацкімі калектывамі, дзеляцца вопытам у камуністычнай працы. Вось для прыкладу Астравецкі раён Беларускай ССР і Швянчонскі раён Літоўскай ССР з'яўляюцца суседзямі праз мяжу. Землі ў абодвух раёнах амаль аднолькавыя. Аднак беларускія хлебаробы атрымлівалі вышэйшы ўраджай. Каб дараўнаць суседзям, літоўцы пераанялі ад іх вопыт арганізацыі пасяўной і купілі ў іх лепшае насенне. Такім чынам у Швянчонскім раёне летась ураджай збожжа склаў звыш 22 цэнтнераў з гектара. У сваю чаргу калгаснікі Астравецкага раёна шмат чаму навучыліся ў літоўскіх суседзяў, а перш за ўсё як правідлова трэба нарыхтоўваць культурны зялёны корм для жывёлы.

Цяпер няма такой галіны гаспадарчага і грамадскага жыцця, у якой не памаглі б сабе ўзаемна людзі і ўстановы дзвюх суседніх савецкіх рэспублік: Беларусі і Літвы, а Дні культуры наладжваюць яны ўжо па традыцыі.

### ВЯСНА КЛІЧА Ў ПОЛЕ

Хлебаробы калгаса імя Дзяржынскага Рэчыцкага раёна першыя ў раёне пачалі падкормку азімых культур. Калгаснікі спадзяюцца атрымаць у гэтым годзе 35 цэнтнераў пшаніцы і 32 цэнтнеры жыта з кожнага гектара пасеваў.

### СУПРАЦОЎНІЦТВА ВУЧОНЫХ

Звыш чатырох тысяч навуковых супрацоўнікаў Беларускай акадэміі навук вядуць распрацоўку больш чым 130 асноўных праблем прыродазнаўства, грамадскіх і тэхнічных навук. У гэтых галінах яны цесна супрацоўнічаюць з замежнымі навуковымі ўстановамі. Асабліва плённыя кантакты беларускіх вучоных з іх польскімі калегамі.

Гэта прадыктавана, як адзначае галоўны вучоны сакратар Беларускай АН, прафесар Андрэй Дзмітрыеў, гістарычнай, культурнай і этнаграфічнай блізкасцю нашых народаў. (вр)

### ЛІСТ ДА ВЁСКІ

Сакратарыят ЦК ПАРП, Прэзідыум НК ЗСЛ і Прэзідыум урада накіравалі ліст да падставовых партыйных арганізацый на вёсцы і гмінных камітэтаў ПАРП, гурткоў і гмінных камітэтаў ЗСЛ, начальнікаў гмін, кіраўнікоў грамадска-гаспадарчых арганізацый на вёсцы.

У лісце гаворыцца аб неабходнасці павелічэння прадукцыі кармоў, каб дзякуючы гэтаму можна было павялічыць жывёлагадоўлю. Другое, аб чым гаворыць ліст, гэта неабходнасць выкарыстання ў гэтым годзе ўсёй вольнай зямлі, каб не ляжала яна адлогам. Трэцяя справа — гэта ўласцівае выкарыстанне сельскагаспадарчых машын. „Зрабіце ўсё, — пішацца ў лісце, — каб вёска станавілася багацейшай і прыгажэйшай“.

### ПАСЯДЖЭННЕ РАДЫ МІНІСТРАЎ

Адбылося чарговае пасяджэнне Рады Міністраў. Удзел у ім прынялі таксама ваяводы і прэзідэнты гарадоў. Была ацэнена рэалізацыя надзённых задач гаспадарчага плана.

### ПАЎНОЧНЫ ПОРТ

Гэта найбольшая марская інвестыцыя краіны. Яе будаўнікі прынялі абавязацельства, што ў гонар XXX-годдзя ПНР скароцяць на тры месяцы будову часткі будучага порту — вялікую базу вугалю. Абавязацельства выконваецца спраўна і база гэта распачне працу ўжо 22 ліпеня гэтага года.

### МІЖНАРОДНАЯ ТЭХНІЧНАЯ ЯРМАРКА

Міжнародная тэхнічная ярмарка будзе праходзіць у Познані ад 9 да 18 чэрвеня. Найбольшыя экспазіцыі з сацыялістычных краін дадуць СССР, ГДР, ЧССР, з капіталістычных краін — Вялікабрытанія, Аўстрыя, ФРГ, ЗША, Францыя і Японія.

### Э. ГЕРЭК І П. ЯРАШЭВІЧ У ШЧЭЦІНЕ

І сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк і прэм'ер П. Ярашэвіч пабывалі ў Шчэцінскім ваяводстве. Яны наведалі найбольшую энергетычную інвестыцыю ў краіне — электрастанцыю „Дольна Одра“. Праз 40 дзён, г.зн. на паўгода раней, чым прадбачыў план, пачне працаваць тут першы энергетычны блок магутнасцю 200 MW. Потым партыйнае і дзяржаўнае кіраўніцтва пабывала ў Шчэцінскай суднабудаўнічай верфі імя А. Варскага, а таксама наведала хімічную фабрыку ў Паліцах, дзе прадукуюць серную кіслату.

### ОРДЭН „ДРУЖБЫ НАРОДАЎ“ Я. ІВАШКЕВІЧУ

Яраслаў Івашкевіч, вядомы польскі пісьменнік, узнагароджаны савецкім Ордэнам „Дружбы Народаў“. Узнагароду гэту прызнаў яму Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР з выпадку 80-ай гадавіны з дня нараджэння.

### ПАСЯДЖЭННЕ ПАЛІТБЮРО ЦК І ПРЭЗІДЫУМА ЎРАДА

На чарговым пасяджэнні Палітбюро ЦК ПАРП і Прэзідыума ўрада былі разгледжаны інфармацыі аб візіце чэхаславацкай дэлегацыі ў Польшчу і аб перспектыўным плане развіцця і загаспадарвання прастораў краіны да 1990 года. (вл)

### ІІІ СЕСІЯ ВРН

21 сакавіка адбылася ІІІ сесія Ваяводскай рады нарадовай. Тэмай сесіі былі праблемы аховы натуральнага асяроддзя чалавека, галоўныя напрамкі развіцця турызму і адпачынку. У працы сесіі прымалі ўдзел віцэ-міністр тэрэновай гаспадаркі і аховы асяроддзя Л. Ахоцкі, намеснік дырэктара Бюро рад нарадовых Канцылярыі Рады Дзяржавы З. Зэль, дырэктар дэпартамента аховы прыроды Міністэрства лясніцтва і драўніннай прамысловасці А. Навакоўскі і шэраг іншых прадстаўнікоў цэнтральных і ваяводскіх улад. Вёў сесію старшыня ВРН, І сакратар ВК ПАРП З. Куроўскі. З уступным словам да дыскусіі выступіў беластоцкі ваявода З. Спрыха. Значная ўвага на сесіі была звернута на канфлікты паміж развіццём прамысловасці і сельскай гаспадаркі з аднаго боку і аховай натуральнага асяроддзя — з другога. Сесія зацвердзіла праект праграмы аховы асяроддзя чалавека на 1974—80 гады. Праект праграмы развіцця турызму і адпачынку будзе зацверджаны на чарговай сесіі ВРН. Прыняты былі таксама пастановы аб стварэнні ваяводскага фонду турызму і адпачынку і аб устанаўленні залатой і сярэбранай адзнакі „Заслужаны для Беласточчыны“.

### НАРАДА Ў ВК ПАРП

У Ваяводскім камітэце партыі адбылася нарада партыйна-гаспадарчага актыву. Прысвечана яна была галоўным грамадска-гаспадарчым планам у прамысловасці, будаўніцтве, транспарце і гандлі і найлепшым спосабам выкананння пастаўленых задач у юбілейны год нашай дзяржавы. Падставай да дыскусіі быў даклад, з якім выступіў кіраўнік эканамічнага аддзела ВК С. Зялінскі. Дыскутанты гаварылі аб рэальных магчымасцях у перамаганні цяжкасцей, аб супрацоўніцтве асобных брыгад і прадпрыемстваў і інш.

### ГАЗАПРАВОД

23 сакавіка ўрачыста, „залатым стыкам“ былі спалучаны два адрэзкі газаправода Валкавыск—Беласток. Праз месяц зямны газ з Савецкага Саюза пойдзе ў беластоцкія кватэры і на прадпрыемствы.

### ГОСЦІ З ЛІТВЫ

Па запрашэнню беластоцкага будаўнічага прадпрыемства на Беласточчыне прабывала група будаўнікоў з Літвы. Літоўскія госці агледзелі наш горад, пабывалі на будаўнічых пляцоўках, а затым падпісалі ад імя свайго прадпрыемства ўмову аб супрацоўніцтве беластоцкіх і каўнаскіх будаўнікоў у галіне абмену вопытам у працы і аб супольным адпачынку.

### ЗАКЛІК

Ваяводская камэнда супрацьпажарнай аховы выступіла да ўсіх жыхароў нашага ваяводства з заклікам узмацніць супрацьпажарны кантроль, правесці старанную і дакладную праверку ўсіх гаспадарак. У апошні час у нашым ваяводстве значна павялічылася колькасць пажараў. Прычынай была неасцярожнасць дзяцей і дарослых, парушэнне супрацьпажарных правіл пры выпальванні лугоў і выганаў і іншыя. (яч)




**Niedziela 31.III.**

6.40 TV Technikum Rolnicze: Chemia. 7.10 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 7.40 TV Kurs Rolniczy. 8.25 „Nowoczesność w domu i zagrodzie''. 8.45 „Bieg po zdrowie''. 8.55 Program dnia. 9.00 TELERANEK. 10.20 PKF. 10.30 „Klub Sześciu Kontynentów''. 11.10 „W starym kinie'', 12.10 Dziennik. 12.25 „Karajan dyryguje Beethovena'' (V). 13.00 „Raport o stanie gminy''. 13.30 „Szansa dżungli'' — rep. film. 13.50 Dla dzieci: „Od bajki do bajki'' — program TV Czechosł. 14.40 „Cztery kółka'' — teleturniej. 15.35 Losowanie Toto — Lotka. 15.50 TV Koncert Życzeń. 16.25 Kwadrans tygodnia. 16.40 „Kair, Synaj, Czerwone Berety''. 17.10 „Tele — Echo''. 18.00 Sportowy magazyn sprawozdawczy. 19.15 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 „Szkoła uczuć'' — film franc. odc. ostatni. 21.10 „Sport w zimowej szacie'' — program rozr. 22.00 Informacyjny magazyn sportowy. 22.45 Dobranoc dla dorosłych.

**Poniedziałek 1.IV.**

12.45 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Mechanizacja rolnictwa. 15.55 NURT — Ekonomia. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Zwierzyniec''. 17.30 „Echo stadionu''. 17.55 Warszawskie perspektywy. 18.10 „Oferty''. 18.25 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.45 „Sudeckie klejnoty'' — reportaż z huty szkła. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr TV: „Małżeństwo Antoniny'' wg powieści T. Manna „Buddenbrookowie''. 21.50 „Spotkania w drodze'' — rep. film. 22.40 Gra „Old Metropolitan''. 23.00 Dziennik.

**Wtorek 2.IV.**

8.50 „Siedemnaście mgnień wiosny'' — film TV Radz. 10.00 Dla szkół: (kl. II lic.) Język polski — A. Fredro „Śluby panieńskie''. 10.30 „Szkoła uczuć'' — film franc. 13.45 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 14.30 TV Technikum Rolnicze: Uprawa roślin. 16.10 Program dnia. 16.15 „Informacje, Towary, Propozycje''. 16.30 Dziennik. 17.05 „Sylwetki X Muzy'' — Tadeusz Łomnicki. 17.30 Dla młodzieży: „5×5'' „Korepetycje muzyczne''. 18.25 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.45 „Eureka''. 19.15 „Przypominamy, radzimy''. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 „Siedemnaście mgnień wiosny'' — film TV Radz. (odc. VII). 21.30 Wiadomości sportowe. 21.35 „Świat i Polska''. 22.20 „Mistrzowie batuty'' — Zdzisław Górzyński. 22.50 Dziennik.

**Środa 3.IV.**

6.30 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 7.00 TV Technikum Rolnicze: Uprawa roślin. 7.30 Film fab. 9.00 Dla szkół: (kl. VI) Fizyka — „W niewidzialnym świecie''. 10.00 Dla szkół: (kl. V) Historia — „Wieś i miasto''. 11.05 Dla szkół: (kl. VIII) Fizyka — „Fizyka fal elektromagnetycznych''. 12.45 TV Technikum Rolnicze: Fizyka. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Uprawą roślin. 14.40 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 15.55 NURT — Psychologia. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Latający Holender''. 17.10 Losowanie Małego Lotka. 17.20 „Dialogi historyczne''. 17.50 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.10 „Przy wspólnym stole'' — program publ. 18.40 „Nieznajomi'' — film TV czechosłow. („Łuk tęczy''). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Filmoteka Arcydzieł: „La strada'' — film fab. wł. 22.10 Sprawozdawczy magazyn sportowy. 23.10 Dziennik.

**Czwartek 4.IV.**

6.30 TV Technikum Rolnicze: Fizyka. 7.00 TV Technikum Rolnicze: Uprawa roślin. 9.00 „Ja nie zabiłem'' — film NRD („Telefon 110'') 10.00 Dla szkół: (kl. II lic.) Język polski — „Adam Asnyk''. 10.35 „Nieznajomi'' — film TV czechosł. („Łuk tęczy''). 12.55 Dla szkół: (kl. III—IV lic.) Język polski — „Władysław Broniewski''. 13.45 TV Technikum Rolnicze: Zoologia. 14.30 TV Technikum Rolnicze: Botanika. 15.05 Matematyka w szkole. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Ekran z bratkiem''. 17.45 „Z teki folklorystycznej Adolfa Dygacza''. 18.15 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.45 „Ekspertyza tygodnia''. 19.00 TEST — „Waluta''. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 „Ja nie zabiłem'' — film NRD („Telefon 110''). 21.20 Wiadomości sportowe. 21.30 „Czym żyje świat''. 22.00 Spotkanie ze Stanisławem Ptakiem. 22.30 „Informacje, Towary, Propozycje''. 22.40 Dziennik.

**Piątek 5.IV.**

6.30 TV Technikum Rolnicze: Zoologia. 7.00 TV Technikum Rolnicze: Botanika. 8.00 „Ryzykanci'' — film ameryk. dok. odc. II. 8.25 „Czarownica'' — film fab. franc. 10.00 Dla szkół: (kl. VI) Geografia — „Pojezierze Mazurskie''. 10.30 „Sztuka naiwna'' — film dok. rum. 11.05 Dla szkół: (kl. II) „Z biletem w ręku'' 12.00 Dla szkół: (kl. III) „A czy znasz ty bracie młody...'' 12.45 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Ochrona roślin. 14.40 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 15.55 NURT — Filozofia. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Transmisja meczu hokejowego o Mistrzostwo Świata Czechosłowacja — Polska (II i III tercja). 18.15 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.35 „Konsylium'' cz. I. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 „Ryzykanci'' — film dok. ameryk. 20.45 „Panorama''. 21.25 Wiadomości sportowe. 21.30 Teatr TV: L. Staff — „Godiwa'' 22.30 „Konsylium'' cz. II. 22.45 Dziennik.

**Sobota 6.IV.**

6.30 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 7.00 TV Technikum Rolnicze: Ochrona roślin. 7.55 Film fabularny. 10.10 Dla szkół: (kl. VII) Geografia — „Chiny''. 11.05 Dla szkół: (kl. VII) Nauka o człowieku — „Wzrok''. 13.20 TV Technikum Rolnicze: Chemia. 13.55 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 14.25 Program dnia. 14.30 Transmisja z meczu hokejowego o Mistrzostwo Świata Polska — Czechosłowacja. 16.00 Redakcja Szkolna zapowiada. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla dzieci: „Sobótka''. 17.10 Turniej sportów obronnych. 17.45 „Z kamerą wśród zwierząt''. 18.20 „Nie tylko dla pań''. 18.45 „Pegaz''. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 „Wielka ucieczka'' — film fab. ameryk. 23.05 Dziennik. 23.25 Wiadomości sportowe 23.40 Piosenki Bolesława Klimczuka.




**Piątek, 29 marca**

8.00 Spektakl TV. 13.25 Program dnia. 14.10 Film fab. 16.15 Dla dzieci. 17.00 Koncert. 19.30 Hokej. Szwecja — ZSRR.

**Sobota, 30 marca**

7.00 Program dnia. 8.00 Program muz. 8.30 Dla dzieci. 9.30 Koncert z Brześcia. 10.00 Przegląd międzynarodowy. 11.15 Koncert życzeń. 11.50 Film dokument. 12.40 Film dokument. 14.10 Mozaika muzyczna. 16.15 Filmy animowane. 16.40 Koncert. 17.05 Film dokument. 17.25 Piosenka — 74. 17.55 Film fab. 19.30 Program estradowy. 20.50 Sport.

**Niedziela, 31 marca**

7.00 Program dnia. 9.00 Spektakl TV. 10.00 Kiosk muz. 11.30 Film fab. 15.30 Filmy animowane. 16.15 Koncert. 16.45 Klub filmowy. 17.45 Film fab. 19.30 Koncert. 20.50 Boks.

 

# ЮБІЛЕЙНЫ ВЕЧАР



*Член экзекутывы ВК, старшыня ВКПК М. Кірылюк уручае адзнаку „Заслужаны Беласточчыне“ Н. Мушынскай.*

9 сакавіка г.г. вялікая зала гарадоцкага Дома культуры імя Кастуся Каліноўскага запоўнілася святочна настроенымі жыхарамі Гарадка і навакольных вёсак. Незвычайная была гэта сустрэча. Прыйшлі сюды, каб разам са сваім рэгіянальным калектывам святкаваць яго юбілей — 20 год існавання.

На ўрачыстасць прыбылі таксама прадстаўнікі палітычных і адміністрацыйных улад: член экзекутывы Ваяводскага камітэта ПАРП, старшыня Ваяводскай камісіі партыйнага кантролю **Мікалай Кірылюк,** кіраўнік аддзела прапаганды ВК ПАРП **Юзэф Альшэўскі,** кіраўнік аддзела асветы, навукі і культуры ВК ПАРП **Міхал Гнатоўскі,** I сакратар Павятовага камітэта ПАРП у Беластоку **Ян Дзенісюк,** старшыня ГП БГКТ **Мікалай Самоцік,** дырэктар аддзела ўнутраных спраў Ваяводскага ўпраўлення **Уладзіслаў Канстанчук,** дырэктар аддзела культуры і мастацтва Ваяводскага ўпраўлення **Антоні Гжэськевіч,** начальнік Беластоцкага павету **Базыль Гулько.** На юбілейную ўрачыстасць прыехалі таксама госці з Варшавы, намеснік дырэктара аддзела культуры і мастацтва Сталічнага ўпраўлення **Эдвард Красоўскі** і дырэктар „Панарамы XXX-годдзя“ **Казімір Бачкоўскі.**

Аб дасягненнях Гарадоцкай гміны за перыяд 30-ці год народнай улады і аб юбілярах гаварыў у сваім дакладзе сакратар гміннага камітэта партыі **Ян Бараноўскі.** Трэба напомніць, што ў Гарадоцкай гміне пасля вызвалення не было ніводнай культурнай пляцоўкі, а сёння тут дзейнічае 7 клубаў і святліц на чале з Домам культуры ў Гарадку. Звыш 40 тысяч кніжак налічваюць бібліятэкі Гарадоцкай гміны. Аб культурным росце людзей хай сведчыць і тое, што ў міжваенны перыяд ніводзін з жыхароў гміны не закончыў вышэйшай школы, а за перыяд народнай улады адсюль выйшлі настаўнікі, інжынеры, лекары, эканамісты, дыпламаты, работнікі навукі.

Асаблівае месца ў культурным жыцці займае рэгіянальны мастацкі калектыў, які за перыяд 20 год існавання даў 600 канцэртаў, а глядзела іх больш 200 тысяч чалавек. Нястомна 20 год працуюць у калектыве яго кіраўнік і арганізатар **Ніна Мушынская, Ніна Цыванюк, Вольга Нядзведзева, Надзя Парэмбская, Люба Северын і Ірэна Паўлючук.** За 20 год праз калектыў прайшло 150 самадзейнікаў. Гарадоцкі калектыў не толькі павышаў свой мастацкі ўзровень, але і вёў выхаваўчую работу. — Актуальнасць рэпертуару і сатырычнасць прыпевак, — гаварыў тав. Я. Бараноўскі, — у многіх выпадках дапамагалі вырашаць актуальныя праблемы асяроддзя.

Да трыбуны падыходзяць прадстаўнікі ўлад, складаюць калектыву словы падзякі за актыўнасць, за распаўсюджванне рэгіянальнай песні. Упершыню члены калектыву сядзяць у зале, а не на сцэне. Да прадстаўнікоў калектыву падыходзіць член экзекутывы ВК М. Кірылюк. **Ад імя старшыні Ваяводскай рады народовай, I сакратара ВК ПАРП Здзіслава Куроўскага ўручае калектыўную адзнаку „Заслужаны Беласточчыне“.** Атрымлівае яе таксама Н. Мушынская. Міністэрства ўнутраных спраў прызнала ўзнагароду — каляровы тэлевізар. З нагоды юбілею, за творчую працу беластоцкі ваявода прызнаў мастацкаму калектыву грашовую ўзнагароду 10 тыс. зл., а ГП БГКТ — магнетафон. Начальнік Беластоцкага павету прызнаў членам калектыву індывідуальныя грашовыя ўзнагароды, а ваяводскі камендант — лісты ўдзячнасці.

На сцэне гарадоцкі мастацкі калектыў. Складае словы ўдзячнасці за высокія ўзнагароды, а праз момант найстарэйшыя члены калектыву даюць канцэрт.

Урачыстасць заканчвае песня „Прыгожая наша ўся зямля“ ў выкананні рэгіянальнага калектыву, хору пачатковай школы ў Гарадку і самадзейнікаў з Меляшкоў, якія гасцінна выступілі на сцэне гарадоцкага Дома культуры.

**Тэкст і фота А Карпюка**



*Гэта яны 20 год таму назад 8 сакавіка далі першы канцэрт.*



*Юбіляры, члены гарадоцкага рэгіянальнага калектыву (на першым плане), упершыню ў ролі гасцей у зале.*

## БЕЛАВЕЖСКІЯ ЖАНЧЫНЫ

Вельмі ўрачыста святкаваўся дзень жанчын у Белавежы. На вечар прыйшло мноства людзей. З дакладам аб ролі жанчын у сучасным жыцці выступіла старшыня гуртка Лігі жанчын Барбара Слёнзак. Прывіталі жанчын таксама старшыня рады жанчын пры гмінным камітэце Фронту адзінства народу Уршуля Муканоўская і I сакратар гміннага камітэта ПАРП Пётр Тарасевіч. У мастацкай частцы выступілі прадшкольнікі, вучні пачатковай школы, інструментальнае трыё, танцавальная група і хор „Белавежа“, які і атрымаў найбольш браў.

На другі дзень увечары гурток Лігі жанчын арганізаваў сустрэчу пры каве. Падобныя сустрэчы адбыліся на мясцовых прадпрыемствах.

Напішу больш пра дзейнасць белавежскага гуртка Лігі жанчын. У гуртку 92 жанчыны. Працуе ён ужо 13 год. Яго дзейнасць — гэта найперш апека над старэйшымі людзьмі і бяднейшымі сем'ямі. Шмат увагі прысвячаюць жанчыны дзецям. Ужо некалькі год у час летніх і зімовых канікул яны арганізуюць дзецям паўлагеры. Бяднейшым дзецям арганізуюць ёлку і раздаюць пачкі. Праводзяць зборку грошай і адзежы на Польскі камітэт грамадскай дапамогі. Гурток прымаў удзел у акцыі „Дар сэрца“ і заняў першае месца ў ваяводстве. Некалькі год таму назад была арганізавана ўзорная безалкагольная забава. Яна вельмі ўдалася і за гэта гурток атрымаў **4000 зл. узнагароды.**

Вядзецца ў гуртку нямала карысных лекцый, конкурсаў, сустрэч з цікавымі людзьмі. Дык нічога дзіўнага, што белавежская жаночая арганізацыя з'яўляецца перадавой у Гайнаўскім павеце. Вялікая ў гэтым заслуга старшыні Барбары Слёнзак, а таксама такіх членаў, як Анна Стэльмацкая, Ольга Смактуновіч, Галена Садчук, Уршуля Муканоўская, Люба Сканечная, Леаніла Бурак-Нядзельская, Анна Бушко, Station Шпаковіч.

**Пётр Байко**

## Новае ў вясковым гандлі

У мінулым годзе і сёлета ГС у Заблудаве Беластоцкага павету шмат увагі прысвячае будове новых крамаў, а таксама мадэрнізацыі старых. Гэта невыпадкова. Крамы заблудаўскага ГС наведвае ўсё больш турыстаў і ўвогуле прыезжых. Апрача таго, інвестыцыйныя справы, звязаныя з будовай крам і кіёскаў у Заблудаўскай гміне, так сказаць, ляжалі на лапатках. Новы старшыня ГС у Заблудаве Э. Слядзінскі звярнуў асаблівую ўвагу на паляпшэнне ўмоў працы гандлёвых работнікаў. У новых памяшканнях апынуліся крамы ў Рэпісках, Фальварках Малых, Давідавічах, Зверках. Гандлёвыя павільёны атрымаюць сёлета Рыбалы і Дабжынёўка. Рамонты будуць праведзены ў крамах у Паўлах, Цялушках, Канюках, Астраўках, Каўпаках, Ахрэмавічах, Заблудаве. Апрача таго, крама ў Паўлах атрымала новую агароджу, а крама ў Каўпаках будзе памалявана свежай фарбай. У гэтым годзе крамы ў Рыбалах, Рэпісках і Давідавічах атрымаюць халадзільныя шафы і прылаўкі, а таксама іншае навейшае абсталяванне, якое неабходна для прадаўшчыкоў.

(ця)




## Зноў сустрэча Янкі Брыля з польскім чытачом

Дзякуючы карпатлівай працы перакладчыцы **Эвы Раеўскай** і прыхільным адносінам **Дзяржаўнага выдавецкага інстытута** ў Варшаве, вядомы сучасны беларускі пісьменнік Я н к а  Б р ы л ь зноў сустрэўся з польскімі чытачамі. Пасля аповесці *„У Забалоцці днее“* і зборніка апавяданняў *„Глядзець на траву“* цяпер атрымалі мы новую падборку яго прозы, якую перакладчыца і выдавецтва назвалі *„Свет далёкі і блізкі“*. Загаловак не зусім трапны, бо ў дзесяці творах, з якіх склаўся змест гэтай кніжкі, няма нічога „далёкага“ ані польскаму, ані тым болей беларускаму чытачу. Усё тут блізкае, непасрэднае, цёплае, сардэчнае, усё шчырае, ад душы. Гэта вельмі характэрная з'ява ў творчасці Янкі Брыля. Беларускі крытык Серафім Андраюк, характарызуючы ў кніжцы *„Жыццё, літаратура, герой“* творчы метад Янкі Брыля, гаворыць, што яго асновай з'яўляецца лірызм. „Лірызм Брыля, — піша ён, — гэта не толькі настрой, эмацыянальнасць, не толькі „лірыка слоў“. Лірызм — стыхія, паветра, агульная атмасфера яго твораў... Спосаб асэнсавання рэчаіснасці ў яго эмацыянальны, паэтычны. Усе падзеі пададзены праз прызму ўспрымання галоўнага героя. Асабістае лірычнае „я“ пісьменніка выяўляецца вельмі непасрэдна, афарбоўвае ўсё шчырым, глыбокім пачуццём...“

Ва ўсім гэтым можна таксама пераканацца, перачытваючы нават гэтую скромную падборку твораў, якая змешчана ў зборніку „Свет далёкі і блізкі“. Знаходзім тут наступныя апавяданні і аповесці: *„Сірочы хлеб“*, *„Зялёная школа“*, *„На Быстранцы“*, *„Прывал“*, *„Ёй мы не скажам“*, *„Сцежка-дарожка“*, *„Званочкі“*, *„Дакор“*, *„Гуртавое“* і *„Яшчэ раз першы снег“*. Яны размешчаны ў кніжцы ў храналагічным парадку, значыць, паводле часу ўзнікнення паасобных твораў. Такім чынам, польскія чытачы атрымалі хаця б прыблізнае ўяўленне аб станаўленні і развіцці таленту Янкі Брыля. Першыя яго творы паявіліся ў друку ў 1946 годзе, хаця пачаў ён пісаць яшчэ да вайны, у 1937 годзе. Пасля першага зборніка *„Апавяданняў“* ужо кожны год Янка Брыль друкаваў штосьці новае.

Падборка Эвы Раеўскай, здаецца, даволі трапная. Яна дае больш-менш агульнае адлюстраванне таго, што стварыў аўтар аповесці „На Быстранцы“. Добра, што гэта аповесць таксама апынулася ў кніжцы *„Свет далёкі і блізкі“*. Яна займае вельмі важнае месца ў гісторыі пасляваеннай беларускай літара-





 

НА СПАРТЫЎНАЙ НІВЕ

## Дуброўскія штангісты

У канцы мінулага года Дуброва атрымала сілавы зал для штангістаў. У час нашага візіту сустрэлі мы на занятках двух выдатных штангістаў Станіслава Высоцкага і Віктара Шэршуня.

Станіслаў Высоцкі — ураджэнец Трафімаўкі, Сакольскага павету. Працуе ён аграмеліяратарам у Дуброве. Яму 24 гады. Штангай зацікавіўся ў сярэдняй школе.

— Прызвычаіўся я да „жалеза“, — кажа С. Высоцкі, — як курэц да папяросаў.

Прыходзіць ён на трэніроўкі пяць разоў у тыдзень. Займаецца пад кірункам Генрыка Гапанюка. У апошнім агульнапольскім чэмпіянаце штангістаў ЛЗС-у, які адбыўся 7—8 снежня 1973 года ў Аструдзе, заняў ён першае месца. У даны момант гэта наш найлепшы штангіст лёгкай вагі на Беласточчыне ў катэгорыі ЛЗС-аў.

Другім шматабяцаючым і здольным штангістам з'яўляецца Віктар Шэршунь. Яму ўсяго 19 год. Зараз вучыцца ў III класе дуброўскага ліцэя. Трэніравацца пачаў ад II класа сярэдняй школы. У спаборніцтвах не выступаў, але мае добрыя вынікі як штангіст у сярэдняй вазе. Тры разы ў тыдзень праходзіць сістэматычную трэніроўку таксама пад наглядам Генрыка Гапанюка.

Тэкст і фота Я. Цялушэцкага

*Віктар Шэршунь.*

*Станіслаў Высоцкі.*

### АКТЫЎНАЯ ПРАЦА ЛОК У БЕЛАСТОЦКІМ ПАВЕЦЕ

На працягу апошніх гадоў значна павялічыліся рады Лігі абароны краіны (ЛОК) у Беластоцкім павеце. Асабліва ўзрасла колькасць членаў ЛОК у гмінах Супрасль, Васількаў, Міхалова і Чорная Беластоцкая. Новыя гурткі ЛОК пачалі сваю дзейнасць таксама ў зборных гмінных школах, ПГР і некаторых салэцтвах.

Сёлета члены ЛОК прымуць удзел у матаровым рэйдзе „Шляхам змаганняў за вызваленне Беласточчыны“, у байдарачным паходзе па Сакалдзе і Супраслі, у шматлікіх сустрэчах з ветэранамі II сусветнай вайны, у гмінных стралецкіх спаборніцтвах. (ця)

Працяг на стар. 4

## СЛОВА МАЕ НАЧАЛЬНІК ГМІНЫ

кароў на 3268 штук. У 1974 годзе быдла ўжо будзе больш на 780 штук.

— Планы нашы напэўна будуць перавыкананы, — сцвярджае начальнік гміны. — Сяляне прымаюць абавязацельствы перавыканаць іх на 20 працэнтаў. Жывёлагадоўляй сяляне сёння займаюцца вельмі ахвотна. Дзяржава наша стварыла добрыя ўмовы для яе развіцця. Ды і ўсім вядома, што калі гаспадары маюць з чагосьці вялікія даходы, дык да гэтага ахвотна горнуцца.

— Найбольш клопатаў гміне, — падкрэсліў тав. Пякарскі, — прыносіць загаспадарванне самай Нарвы. Няма яшчэ апрацаванага плана забудовы і гэта страшна перашкаджае ў размяшчэнні таго, ці іншага складу ці крамы. І тут мы пакуль што бязрадныя, бо гэтыя справы вырашаюцца ў павеце і ваяводстве. Здаецца, мы пакуль што стаім у далёкай чарзе. Але напэўна, гэта доўга не працягнецца, і Нарва пачне аднаўляцца, пачне набіраць гарадскі выгляд, тым больш, што месца вельмі прыгожае і ляжыць мястэчка над самай рэчкай Нарвай.

Тэкст і фота М. Хмялеўскага

## ФАЛЬКЛОР

СЯМЕЙНАЯ

109

Ой, як я хо-ді-ла сем ліет дієў-чы-но-ю —

Сту-ча-ла-зві-не-ла зэм-ля пуо-до мно-ю.

*Ой, як ходіла сем ліет діеўчыною —*  
*Стучала-звінела зэмля пуодо мною,*  
*Стучала-звінела зэмля пуодо мною.*  
*Як я вышла замуж за ліхого мужа —*  
*Ой, стала я стала за рочок нэдужа,*  
*Ой, стала я стала за рочок нэдужа.*  
*Як стаў мэні мілы дубіною біті —*  
*Ой, сталі ж мне сталі плечэнькі болієті,*  
*Ой, сталі ж мне сталі плечэнькі болієті.*  
*— Нэ бі мэнэ мілы, нэ бі дубіною —*  
*Нэдоўго я буду жыті і з тобою,*  
*Нэдоўго я буду жыті і з тобою.*  
*Выкопаеш, мілы, шыроку могілу,*  
*Поховаеш мэнэ мілу-чорнобрыву,*  
*Поховаеш мэнэ мілу-чорнобрыву.*  
*А в ножках посадіш зэлёну ліешчыну,*  
*В головце, міленькі, — чэрвону каліну,*  
*В головце, міленькі, — чэрвону каліну.*  
*А як будэш, мілы, сыніка жэніті,*  
*То прышлеш до мэнэ ліешчыну ломіті,*  
*То прышлеш до мэнэ ліешчыну ломіті.*  
*А як будэш, мілы, дочку оддаваті,*  
*То прышлеш до мэнэ каліны ломаті,*  
*То прышлеш до мэнэ каліны ломаті.*

Ад Анны Стахвіюк, год 50, вёска Трасцянка Гайнаўскага павету, запісаў 21 лютага 1974 г. Мікалай Гайдук. Нотны запіс з магнетафоннай стужкі зрабіла Людміла Панько.

## Пісьмо паклікала ў дарогу

У рэдакцыю прыйшло пісьмо, у якім жыхар Слоі, Сакольскага павету, напісаў аб несумленнай працы медычнага персаналу ў гмінным цэнтры здароўя ў Шудзялаве. Як доктар, так і медсястра заўсёды раней, чымсьці гэта акрэслена гадзінамі працы, закрываюць цэнтр здароўя на замок, а часта ўвогуле не паяўляюцца на рабоце. Гэтак паўтаралася, паўтаралася... Медсястра „рэгістравала“ хворых нават тады, калі пуставаў лекарскі кабінет. Цікава толькі, дзеля чаго. Мо, каб чарга да лекара пагрозна расла і расла. Бо калі будзе прымаць пацыентаў пані доктар, не маглі прадказаць нават найбольш вопытныя ў сваёй сякой-такой прафесіі вясковыя варажыхі. Аўтар пісьма прасіў наведаць шудзялаўскі цэнтр здароўя і бліжэй зацікавіцца тым, як выконвае свае абавязкі пані доктар і, калі гэта магчыма, дапамагчы ў вырашэнні гэтай, асабліва балючай для ўсіх хворых, справе. Усе яны столькі начыталіся ў газетах і выслухалі столькі радыё- і тэлеперадач аб усё лепшай арганізацыі лекарскай апекі для сялян, што аж крыўдна падумаць, чаму такі лёс спаткаў іх у Шудзялаве.

Паехалі мы ў камандзіроўку, якую выклікала пісьмо нашага чытача. А як жа, пані доктар не на паказ, хаця ў гэты час павінна быць на дзяжурстве ў сваім лекарскім кабінеце. Была толькі медсястра, якая, як напаміналася ў пісьме, не менш грашыла, не прыходзячы часта на работу. Яна спачувальна „шкадавала“, што і нам не „павязло“ сустрэцца з доктарам Бажэнай Балтык, кіраўніком гміннага цэнтра здароўя. Яна паехала. Куды і чаго? — Мо ў Саколку? — пачулі мы ў адказ. — Пані доктар мае ўласны самаход, якім ездзіць у Саколку, Беласток... Сёння акурат паехала...

Не верыцца, што якраз сёння. Дня нашай паездкі мы спецыяльна не выбіралі.

Думаем, што дырэктар комплекснай лекарскай апекі (ZOZ) у Саколцы таксама прасочыць за работай падначаленага яму гміннага цэнтра здароўя ў Шудзялаве і ў сваю чаргу павядоміць нам аб прынятых мерах. (ця)

З МАЁЙ ЗВАНІЦЫ

## Не заглядай на чужы панадворак — вока не скосіш

А на гэты якраз панадворак, сябры, заглянуць варта. Варта дзеля таго, каб сыны і дачушкі нашы яснымі, здаровымі вачанятамі ў адкрыты перад імі свет углядацца маглі.

Няма такой школы, у якой усе вучні былі б здаровымі. Таго трэба звольніць з гімнастыкі, іншага пасадзіць на першай лаўцы, а гэты мусіць рэгулярна з'яўляцца на лекарскі агляд. У настаўніцкім пакоі пачатковай школы ў вёсцы Падазяраны разглядаецца паступова клас за класам.

І вось дзіва. У класе 7-мым і 8-мым шмат дзяцей вымушана насіць акуляры. А ў малодшых класах чамусьці зрок ва ўсіх адмысловы. Пытанне — чаму? Лекар не першы раз у падазяранскай школе. Дзевяты год ён ужо сочыць за здароўем яе вучняў. Наглядае і ўмовы, у якіх ім даводзіцца грызці кніжную мудрасць.

Калісьці, гэта шмат гадоў таму назад, калі сённяшнія старшакласнікі толькі пачыналі алфавіт вывучаць, ён з жахам сцвердзіў, што большасць малых падазяранцаў вымагае кансультацыі ды нават і помачы лекара-акуліста. Сцвердзіць аднак мала. Мусіць жа быць прычына. У іншых жа школах не тое.

Звонку школьны будынак, здаецца, зусім нічога сабе. Пляц наўкруга, вялікі, цудоўны. Лес пад бокам. Ну, толькі што вокны малаватыя. У большасці вясковых школ аднак такія. У чым тут справа?

А між тым паявіўся новы дырэктар — Янка Гайдучэня, малады яшчэ, энергічны чалавек. Падумалі разам. Звярнулі ўвагу на колер сценак. Сцены і нават столь у класах чамусьці цёмныя, брудна-карычневага колеру. Драбніца, здаецца, а класы выглядаюць панурымі, змрочнымі.

Пры рамонце мазнулі светленькім дзе толькі можна было. Паяснела, здаецца, школа. Тым больш, што па ўласнай ужо ініцыятыве дырэктар узмоцніў сістэму электрычнага асвятлення.

А гады беглі. Стайкамі выляталі ў свет выпускнікі восьмых класаў, напалоханымі зайчаняткамі прыбягалі новыя першакласнікі. Штогод вялася праверка зроку. Настаўнікі пільнавалі, каб, каму неабходна, без акуляраў не яўляўся.

Паняцця не маеце, як цяжка бывае ўпільнаваць малых чалавечкаў.

З хаты, вядома, са шкламі на носе кожны выходзіць. А вось толькі мінуў суседнюю хату, ужо запіхнуў паміж кніжкамі дзесьці.

А іншы возьме нават і аб камень гэтай урэднай штукай трэсне — каб толькі яе пазбыцца. Ну, бо як? Акулярнікам, прафесарам аднакласнікі абзываццa будуць. Усім, усім, асабліва дзяўчатам чамусьці здаецца, што нос, нават брудны, без акуляраў прыгажэй выглядае. Тлумач ім, пераконвай. Рабі сценгазету са здымкамі вядомых актрыс, акцёраў і песняроў, выбіраючы, вядома, тых, якія на свет цераз ашклёныя рамкі паглядаюць. Угаварвай бацькоў, каб дзеля дабра справы не шкадавалі грошай на модныя апраўкі. І ўсё гэта дзень за днём, год за годам.

Год за годам аднак таксама пасля кантроля і па загаду акуліста са спіску дзяцей з аслабленым зрокам скрэслівалі па два-тры прозвішчы. Новыя ў спісках амаль не паяўляліся.

Куранят, як кажуць, восенню лічаць. 7-мы і 8-мы класы — гэта якраз тыя, якія яшчэ вучыліся ў цёмных, змрочных памяшканнях.

У іншых вачаняты ўсіх колераў і адценняў бліскаюць так сама ясна і весела, як светлыя сцены сённяшняй школы.

Ларс

ЦІ ВЕДАЕЦЕ, ШТО...

...на свеце ў 1971 годзе было 3.706 мільёнаў жыхароў.

...у Кітаі з гэтай сумы было 787 млн.

...у Індыі — 550 млн.

...у СССР — 245 млн жыхароў.

...207 млн — гэта насельніцтва ЗША ў 1971 г.

...125 млн — у Інданезіі.

...117 млн — насельніцтва Пакістана.

...105 млн людзей — у Японіі.

...Польшча знаходзілася на 20 месцы па колькасці жыхароў. (ті)




### З ТАБОЙ

Сяджу
каля цябе,
гляджу
ў чорныя вочы
і чую,
як сэрца б'ецца,
як пахнуць валасы,
гаворыш
нешта,
а я не слухаю.
Гляджу
і чую,
як дыхаеш.
Ты
хочаш ужо ісці —
чакаюць
дома цябе?
О, не,
хвілінку пасядзі,
глянь
на мяне,
паслухай,
як б'ецца
і стукае
маё сэрца.
Я адчуваю

нешта дзіўнае...

**Юрка Панасюк,**
Бельскі беларускі ліцэй

*

*Дзяўчына*
*прыгожая*
*сінявокая*
*дарагая*
*Дзяўчынка...*
*Магутнае слова*
*Як моцны крык грудзей*
*Дзяўчына...*
*Слова дарагое*
*найдаражэйшае*
*Каханае аж да*
*шаленства*
*Дзяўчына...*
*Ажно шуміць у галаве*
*Здаецца ўжо канец...*
*Ды не, ізноў яно*
*дзяўчына...*

**Яўген Семянюк,**
Бельскі беларускі ліцэй

### НЭ ЗНАЮ...

Коб хоч ты мэнэ любіў,
Коб ніколі лёс нэ біў
Мэнэ — і мою гуорку долю,
Выробіла б сільну волю.

Нэ забудь, ой, нэ забудь,
Прыді хоч колі-нэбудь
І одчыні двэры найшэрэй
З сэрца скажы ўсё найшчэрэй.

Сэрце можэ сказаті,
Злым людям нэ знаті,
Пруойдэ, забудэм мы про тое,
Што было нашэ, нэ злое.

**Анна Дзенісюк**

БУДАЎНІЧЫЯ ПАРАДЫ

# З-пад „Залатой вяхі"



Сёння прапануем нашым сялянам план інвентарскага будынка, які ў 1972 годзе атрымаў агульнакраёвую ўзнагароду на конкурсе „Залатая вяха". Уласнікам яго з'яўляецца грамадзянін Марысевіч з вёскі Мікалаювак у Аўгустоўскім павеце.

Гэта будынак з павышаным дахам (што відаць на рысунку), крыты этэрнітавымі плітамі, часткова падпіўнічаны, пасярэдзіне ўздоўж цэлага будынка перагароджаны мураванай сцяной і такім чынам раздзяляецца ён на дзве часткі. Першая з іх служыць за абору і мае 110 квадратных метраў, а другая — велічынёю ў 99 квадратных метраў, прызначаецца на хлеў для свіней. Гэта, дарэчы, таксама добра відаць на малюнку.

У гэтым будынку яго ўласнік трымаў: 6 свінаматак з парасятамі, 12 парсюкоў, 14 кармнікаў, 10 кароў і 6 цялят. Вядома, можна яго выкарыстаць цалкам інакш, у залежнасці ад актуальных патрэб гаспадара.

Праект гэтага будынка апрацавалі спецыялісты з Аўгустова, а Дырэкцыя вясковага будаўніцтва ў Беластоку заахвочвае сялян да яго выкарыстання, асабліва ў тых гаспадарках, якія спецыялізуюцца ў высокатаварнай жывёлагадоўлі.

Будынак мае ўласны кармавы засек з камплектнай механізацыяй для запраўкі пашы і ачысткі гною. Прасторнае паддашша прызначаецца на склад сена і саломы. Адначасова план прадбачвае пабудову сіласу для параванай бульбы і зялёнкі, а таксама рэзервуары на гнаёўку. Будынак мае водаправоднае, каналізацыйнае, электрычнае, супрацьгромавае, вентыляцыйнае і механізацыйнае абсталяванні.

Матэрыялы для пабудовы: фундамент з бетону, запраўленага жвірам і гравіем, вонкавыя сцены з керамічнай цэглы, а сцены ўнутраныя з цэглы белай пясочна-вапнавай. Між цэгламі жужлёвая маса.

**М. Нурэцкі**




Куток практычных ведаў




### ВАША ДЗІЦЯ

Дзіця, па меры падрастання становіцца ўсё больш рухлівае. Пачынаючы хадзіць, яно лазіць на крэслы, сталы, на лесвіцу— становіцца ўсё больш фізічна спраўным, але і патрабуе пастаяннага догляду, „каб не набіла сабе гуза".

Гэты беспярапынны рух дзіцяці проста неабходны, хаця і дадае клопатаў яго апекунам. Без гэткага руху не можа быць мовы аб правідловым развіцці дзіцяці. Дзеці, якія ва ўзросце 2—3 год бываюць мала рухлівыя, гэта звычайна дзеці з нейкімі фізічнымі або нават псіхічнымі хваробамі.

Таму трэба толькі цешыцца, што дзіця ваша жывое і рухлівае. Не варта перасольваць у клопатах, каб хаця дзіця не ўпала, не дазваляючы яму скакаць і бегаць. Трэба яму толькі даць адпаведныя ўмовы. Найлепш было б выдзяліць у хаце адпаведны куток для дзіцяці, дзе б не было ніякіх небяспечных, вострых кантаў мэблі і шкляных прадметаў, якія лёгка б'юцца і дзіця можа імі скалечыцца.

У гэтым жа ўзросце (2—3 гады) дзіця хутка расце, і неабходна даваць яму адпаведную ежу. Ранавата яшчэ даваць яму ўсё тое, што ядуць дарослыя. Надалей яшчэ падставовымі прадуктамі павінны заставацца для яго малако, сыр (таксама жоўты, але далікатны), яечкі, масла, нятлустае мяса, рыба, гародніна і фрукты. Зразумела, што можна даваць дзецям і некаторыя патравы, што ядуць дарослыя, але, напрыклад, замест засмажваць суп, лепш дадаць да яго кавалачак масла, салодкую смятанку або жаўток.

Ежа дзіцяці ў гэты перыяд павінна быць вельмі разнастайная і смачная, паколькі ў раннім дзяцінстве найлягчэй прывучыць дзіця да смаку многіх страў. Дзеці, якія атрымліваюць манатонную ежу, неахвотна ў будучыні спажываюць страву, якой не ведаюць.

Пакуль дзіця яшчэ не мае карэнных зубоў, трэба яму сячы або вельмі дробна наразаць страву. Не трэба праціраць праз сіта.

Дзіця паступова павінна прывыкаць грызці, кусаць, што неабходна для правідловага развіцця зубоў і сківіц. Таму ўжо ў час паяўлення першых зубоў дзецям менавіта даюць грызці скурку ад хлеба.

Неабходна навучыць дзіця есці самастойна і з ахвотай. У 3-гадовым узросце дзіця павінна ўжо ўмець прыгожа есці ўласнай рукой. Перыяд гэты ізноў будзе клапатлівы для маці, вымагае ён вялікай цярплівасці. Часам трэба прыплюшчыць вочы на заліты абрус ці разбіты кубачак. Але чаго не зробіць маці для свайго дзіцяці, каб толькі добра яго выхаваць!

**Эскулап**




Людвіг прыехаў надвячоркам. Лёгка ўскочыў на скрыпучы ганак і сутыкнуўся са Стасяй. Яна, ускрыкнуўшы, кінулася на шыю брату, смеючыся і плачучы. Людвіг гладзіў яе жаўтлявыя валасы, цалаваў мокрыя ад слёз шчокі. Ад яго шэрага шыняля пахла тытунём, парахавым дымам, хвояй. Стася ўдыхала гэты незнаёмы і ў той жа час такі родны пах, прыціскалася тварам да шынельнага сукна. Так стаялі яны даволі доўга, забыўшыся аб усім на свеце і адчуваючы толькі адзін аднаго. Аднак голас бацькі вярнуў іх да рэчаіснасці.

— Дзень добры, — прамовіў ён ціха, — прашу пана капітана да хаты...

Тон, якім ён гэта сказаў, наўмысна нізкі паклон абурылі Людвіга. З бацькам ён не ладзіў з даўняга часу, спачатку проста таму, што не падабаўся яго характар, а потым непрыязнасць стала больш сур'ёзнай і глыбокай. Бацька і сын разышліся ў галоўным: у адносінах да новага жыцця, да яго людзей.

Вяртаючыся цяпер пасля пяцігадовай адсутнасці дамоў, Людвіг, вядома, не думаў, што бацька вельмі будзе рады яму, але ўсё-такі было неяк непрыемна ад халоднай, нават варожай яго ветлівасці. Гаворыць як з чужым. Ну, гэта яго справа, галоўнае, Стаська, мілая дзяўчынка, рада ягонаму прыезду. І дастаткова. Ён, уласна, і прыехаў, каб пабачыць яе.

— Добры дзень, бацька, як жыццё, здароўе?

— Жыццё як жыццё; хочаш — жыві, хочаш — у пятлю лезь.

— Чаму ж гэта так?.. Ну, добра, хадзем у хату, пагаворым.

Пакуль Людвіг умываўся на кухні, бацька шапнуў Стасі:

— Пра Веслава маўчы. Ні слова пры Людвігу. Інакшай не бачыць нам ні сына, ні брата, ды і самім не жыць. Зразумела?

— А калі Людвіг спытае?

— Кажы, не ведаю.

За сталом бацька моўчкі піў гарэлку, прывезеную Людвігам, і засяроджана закусваў. Людвіг расказваў пра Савецкі Саюз, расказваў горача, з захапленнем пра гераізм савецкіх людзей. Гаварыў, што яны роўныя і вольныя, таму і б'юць Гітлера і паб'юць любога ворага.

— Бачылі мы іх, — не вытрымаў стары Вышаслаўскі, — гарэлку хлябтаць ды дзевак мацаць яны дужа здатныя, твае савецкія.

— Ну што ж, — рассмяяўся Людвіг. — Яны не святыя, бацька.

У дзверы пастукалі, і ў хату ўвайшлі солтыс Касцянецкі і капітан Глебаў.

— Просім выбачэння, што патурбавалі, — сказаў солтыс, спыніўшыся ў парозе. — Таварыш капітан цікавіцца вашым госцем, пан Вышаслаўскі.

— Прашу дакументы, — строга звярнуўся Глебаў да Людвіга.

Той расшпіліў не спяшаючыся мундзір і, дастаючы бумажнік, зірнуў коса на бацьку. Стары зларадна ўсміхнуўся, як бы кажучы: вось яны, твае савецкія сябры!

Глебаў уважліва паглядзеў дакументы, вярнуў іх Людвігу і працягнуў руку:

— Будзем знаёмыя, таварыш капітан. Глебаў. Прашу прабачэння за тое, што перапыніў вашу вячэру, але што зробіш — служба. Днямі мы затрымалі небяспечнага злачынцу, а недалёка ад вашай хаты нас абстраляў нейкі бандыт і кінуў гранату. Так што вайна не толькі на перадавой.

Глебаў сустрэўся позіркам са Стасяй. У вачах дзяўчыны чамусьці мільгануў спалох, твар яе пабялеў.

— Вось чаму давялося праверыць вас, таварыш капітан, — працягваў Глебаў. — Яшчэ раз выбачайце за гэта. Заходзьце да нас, будзем вам рады.

Людвіг усміхнуўся:

— Абавязкова зайду. А наконт праверкі... — я сам салдат, разумею. Ну, а цяпер прашу за стол. Стася, падай, калі ласка, чаркі. Прашу, прашу, панове. Дазвольце мне пакамандаваць.

Глебаў і Касцянецкі не прымусілі сябе доўга прасіць. Стася за сталом аказалася паміж Людвігам і Глебавым. „Вось бы заўсёды так, — думала яна, — былі б усе разам за адным сталом!"

— Таго не затрымалі? — спытаў Людвіг. — Што гранаты кідаў?

— Не, — адказаў Глебаў, — знік, як у зямлю праваліўся. Відаць, добра гэтыя мясціны ведае.

Стары падняўся з-за стала і, спасылаючыся на немагату, пайшоў на другую палавіну хаты. Але не лёг, а, прычыніўшы дзверы, прыхіліўся да вушака.

Госці выпілі і разгаварыліся. Размова была вясёлая, з жартамі і для старога зусім нецікавая, але неўзабаве Вышаслаўскі насцярожыўся. Гаворка пайшла аб атрадзе самаабароны ў Кудароўшчыне. Застава з дапамогай солтыса Касцянецкага сфарміравала такі атрад, і зараз Глебаў і солтыс прасілі Людвіга, — калі гэта яму, вядома, будзе не цяжка,

# Палюйце на дзікаў

Во дзе занятак, сапраўды годны мужчыне. Выхоўвае храбрасць, спрытнасць, вытрымку, гартуе волю.

Ды што там казаць!

Гэтага году Павел Выварка хадзіў на дзіка і залез у такія нетры, што за два крокі нічога не відаць. Ідзе асцярожна, прыслухоўваецца. Страх бярэ. Раптам у суседнім карчы — трэсь-трэсь. Нешта ходзіць нібы. Галлё загойдалася. А потым як затрашчыць, як загукае! Дзік! Выварка ногі на плечы — і ходу. А ззаду трашчыць. Вяпрук даганяе. Што рабіць? І тут Выварка набраўся храбрасці (як гінуць, дык з музыкай!), павярнуў назад і, трымаючы дубальтоўку, як для штыкавой атакі, кінуўся насустрач дзіку.

А той, відаць, адразу разгадаў намер працўніка, нервы ў яго не вытрымалі, бо трэск у прамерзлай ляшчыне пачаў аддаляцца.

„Ага! — падумаў Павел. — Спужаўся! Цяпер не ўцячэш. Вось я выганю цябе на ўзлессе!"

Але на ўзлессі дзік як скрозь зямлю праваліўся. Знік. Выварка і сюды, і туды — няма. Глянуў на крайнюю ад поля сасну і аслупянеў: сядзіць на вяршку калега — паляўнічы Аляксей Баранчык і зубамі ляскае. І дубальтоўка яго пад дрэвам валяецца.

Доўга потым расказвалі на вёсцы пра Паўлаў гераізм і Аляксееў спрыт.

...І так, каб упаляваць вяпрука, трэба яго спачатку знайсці. Гэта робіцца так. Ходзіць паляўнічы лесам і кліча дзіка:

— Пац-пац-пац!..

Вяпрук, як пачуе, адразу і прыбяжыць.

А далей дзейнічайце ў залежнасці ад абставін. Калі раз'юшаны дзік кінецца на вас, — не трацячы часу, дэманструйце ўвесь свой спрыт. Развівайце хуткасць, на якую толькі здатны. Чалавек наогул ніколі да канца не ведае сваіх магчымасцей. Адзін мой сябра пасля некалькіх такіх паляванняў стаў спрынтэрам і цяпер вельмі ганарыцца гэтым. Не любіць толькі, калі ў яго спытаць:

— А скажыце, калі ласка, хто ваш трэнер?

Значыць, развіваеце спрынтэрскую хуткасць і бяруце напрамак на ўласную хату. Каб дзік вас не дагнаў, рэкамендуецца на хаду скідаць розную вопратку: шапку, паліто, пінжак. Гэта яго крыху затрымае. Калі ўжо скідаць зусім не будзе чаго, кіньце дубальтоўку. Пакуль дзік з ёю распраўіцца, вы паспееце адарвацца ад яго.

Апынуўшыся на сваім панадворку, жвава бяжыце ў хлеўчык і, як толькі вяпрук ускочыць за вамі, хутка зачыніце дзверы. Дзік — ваш!

. . . . . . . . . . .

Палюйце на дзікаў!

**В. Каваль**



*— Гэты стары інструмент набыў нейкі новы, прыемны вясновы тон.*

# НІЎКА





### СВЕДКА

Паліцэйскі дапытвае сведку забойства, учыненага на вуліцы сярод белага дня.

— Дык вы сцвярджаеце, што чулі абодва выстралы?

— Зусім верна. Калі ён выстраліў першы раз, я знаходзіўся за 25 метраў.

— А другі?

— Думаецца, што тады я быў ужо метраў за трыста...

### ПА КІНДЗЮЛІСУ

— Што такое этыкет?

Тут падыйшоў Кіндзюліс і сказаў:

— Уменне пазяхаць з закрытым ротам.

### ВОСЬ І ЦУДОЎНА

— Як вы сябе сёння адчуваеце?

— Кепска, доктар.

— А як адчувалі ўчора?

— Вельмі кепска.

— Вось і цудоўна, вы пайшлі на папраўку.





### ТОНКІ НАМЁК

Прыйшоў аднойчы селянін да пана з нейкай просьбай, а з ім і малое хлапчаня прыплялося — яго сын. Пан сядзеў за сталом пад раскошнай ліпай і цярабіў вараныя яйкі, снедаў на свежым паветры.

Малы ўбачыў — засоп, захныкаў, тузануў бацьку за клешні, паказваючы пальцам на панскі стол: „Тату, я хачу..."

— Ша, — навучае яго бацька, — не скуголь. Пан не свіння, каб цэлае яйка з'есці, выдзяліць і табе палавіну.

### МІНІВЕРШЫ

### МУДРЭЦ КАЗАЎ

Мудрэц казаў: калі каго ўсё<br>
несці,<br>
І несці доўга на сваёй спіне,<br>
Пасля сказаць яму дадолу<br>
злезці —<br>
Дык ён злавацца і бурчаць пачне.

Таму разумны бацька, каб вось<br>
гэтак<br>
Бяды пад старасць не нажыць<br>
сабе,<br>
Не прывучае змалку мілых<br>
дзетак<br>
Па ўцехі ехаць на чужым гарбе.

### ТАКІ Ж, ЯК САМ

Калі сабака ноччу брэх<br>
Уздыме дзесьці нечакана,<br>
То не кажыце вы наспех,<br>
Што ён напаў на зладзюгана.

Вунь Мурза сёння нарабіў<br>
Такога енку — сцерпець трудна.<br>
А што было? Сабака быў!<br>
Такі ж, як сам, адно —<br>
прыблудны!

**Ніл Гілевіч**

### ВЫКРАЎ

Малады чалавек выкрадае дзяўчыну. Каля яе дома ён спыняе таксі і просіць як мага хутчэй адвезці іх на вакзал. Ля вакзала дзяўчына выходзіць, малады чалавек хоча расплаціцца. Таксіст гаворыць яму:

— Не трэба. Вы мне нічога не павінны. Увесь маршрут быў загадзя аплачан бацькам сеньярыны.

### ФАНТАСТЫКА

У кнігарню заходзіць пакупнік

— Ці ёсць у вас што-небудзь з фантастыкі?

— Магу прапанаваць каталог запасных частак для аўтамабіля „Фіят".

### БЕДНЫ

— Ці б'е цябе бацька, Пітэр?

— Не, я самы малодшы з дзесяці братоў і ён стамляецца, пакуль чарга даходзіць да мяне.

### МУЖ

Маладая жонка гаворыць мужу:

— Мілы, мой тата разарыўся.

— Ён заўсёды мяне ненавідзеў. Я ведаў, што ён знойдзе сродак разлучыць нас.



*— Чаму вы ў апошні час адмаўляецеся ад камандзіровак?*

*— Урачы забаранілі піць.*

### СРОДАК

Скупы шатландзец дапытваецца ў судовага ўрача, які сродак ад марской хваробы найбольш эфектыўны.

— Што датычыцца вас, — адказвае ўрач, — рэкамендую трымаць у роце шылінг.

### У САМЫ АКУРАТ

Алькальдам аднаго іспанскага гарадка быў чалавек, які не вылучаўся высокай культурай. Аднойчы ён атрымаў тэлеграму з геаграфічнага таварыства: „Вам неабходна паведаміць аб сейсмічным руху, эпіцэнтр якога знаходзіцца ў вашым раёне". На наступны дзень геаграфічнае таварыства атрымала ад алькальдама такі адказ: „Затрыманы эпіцэнтр і яшчэ чацвёра. Карыстаюся выпадкам, каб засведчыць сваю адданасць галаве дзяржавы".

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Ніны Юзвюк з Катлоў Бельскага павету змяшчаем папулярную савецкую песню

## СИНЯЯ ВЕЧНОСТЬ

*Музыка: А. Бабаджанян*<br>
*Поэт: Муслим Магомаев*

Море вернулось говором чаек<br>
Песней прибоя, рассветом зари.<br>
Сердце, как друга, море встречает<br>
Сердце, как песня, летит из груди.

О море, море, преданным скалам<br>
Ты не надолго подарищь прибой.<br>
Море, возьми меня в дальние дали<br>
Парусом алым вместе с тобой.

Грустные звёзды в поисках ласки<br>
Сквозь синюю вечность летят до земли.<br>
Море на встречу им, как детские сказки,<br>
На синих ладонях несет корабли.<br>
О море, море..



*Чаго ў спорце не бывае!*

## Цяжкае становішча

Надоечы прыходзіць да мяне пляменніца. Нібы і сумная, але ў вачах — смяшлівыя іскрынкі.

— Дзядзька, — кажа яна, — пазнаёмілася я з хлопцам. Вяселле будзе!..

— Дык што ж, віншую цябе, Святланка!

— Вяселле то будзе, — засмуцілася Света, — але ў мяне непаразуменне, сама не ведаю, што рабіць...

— А што такое?

— І смех і грэх. Наша прозвішча Праснак. А майго хлопца яшчэ мудрэйшае — Аладка. Якое ж мне выбраць?

— Го! — супакоіў я Свету. — Тут і выбіраць не трэба, пішыцеся проста — Аладка-Праснак!..

**Хв. Праснак**

### ПАРАЎНАННЕ

Багата апрануты мужчына сустрэў свайго сябра, якога даўно не бачыў.

— Прыемна, што я цябе сустрэў. Але што з табой здарылася? Чаму ты носіш такі стары касцюм?

— Няўжо не здагадваешся? — здзівіўся сябра.

— Памятаю, твой бацька заўсёды насіў старанна адпрасаваныя касцюмы з дарагога матэрыялу.

— А хіба ў мяне іншы? Бацька яго насіў трыццаць гадоў назад.

### ЧАМУ

— Ты чуў, што ў Манака забаранілі футбол?

— Чаму?

— Клапатлівая справа. Мяч без канца ляціць то ў Італію, то ў Францыю.

## Курёзы

### ТРЫМАЦЬ ПОРАХ СУХІМ!

У прыбярэжных водах Паўночнага мора з часоў другой сусветнай вайны крыецца нямала мін, авіябомб і іншых небяспечных сюрпрызаў. Таму каманда па абясшкоджванню снарадаў неадкладна ўзялася за справу, калі пры расчыстцы акваторыі невялікага заходнегерманскага порта Тэнінга трал наткнуўся на нейкія металічныя прадметы. Яны сапраўды аказаліся боепрыпасамі, але... больш чым 250-гадовай даўнасці. Спецыялісты вызначылі, што гэта — гарматныя ядры эпохі Паўночнай вайны (1700—1721 гадоў). Ядры разрадзілі. Зарады чорнага пораху аказаліся сухімі і непашкоджанымі.

### ПРЭЗІДЭНТ ЗАБАСТАВАЎ

Яны рашыліся на апошні сродак: галодную забастоўку.

Аднак увагу французскіх газет прыцягнула не так забастоўка, як удзельнікі: прэзідэнт, дырэктар „Кампані эўропеен дэ сціль" і 10 іншых буйных служачых. Прычына забастоўкі — „поўнае непаразуменне з боку банкаў", якія адмаўляюць гэтай кампаніі ў крэдытах.

### ВЫКРЫЦЦЕ „ЧАЙНАГА ЧЭМПІЁНА"

Англічанін Кен Пейдранк хваліўся, што штодзённа выпівае па 83 шклянкі чаю. Ён нават прэтэндаваў на званне чэмпіёна свету ў „гэтым відзе спорту". Як паведамляе агенцтва ЮПІ, журналісты вырашылі праверыць гэты факт. Пасля дня, праведзенага з карэспандэнтамі, Кен быў аб'яўлены „лгуном і ашуканцам", бо здолеў выпіць толькі... 76 шклянак чаю.





*У прынцыпе ўсе п'яніцы падобныя адзін на аднаго, як дзве кроплі гарэлкі.*

...Ён так часта адчуваў сябе не ў сваёй талерцы, што сям'я засталася без посуду.

...Ён жыў адной думкай, каб за яго думалі іншыя.